Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 680.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Серада, 19 жніўня 1998 г. № 86 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

# Беларускіх верталётчыкаў зноў рыхтуюць на экспарт

**Мінская фірма «Белтэхэкспарт» неўзабаве адправіць на працу ў Турцыю і Іран каля дзесяці беларускіх пілотаў. Для іх ужо рыхтуюць суперсучасныя верталёты МІ-24 на авіябазе ў Кобрыне, якую плануюць расфармаваць, а баявыя машыны перададуць у «Белтэхэкспарт».**

Гэтая фірма праславілася яшчэ ў чэрвені мінулага года, калі выбухнуў скандал з продажам у Перу эскадрыллі сучасных самалётаў-знішчальнікаў. Перуанцы заплацілі за МІГі каля 400 млн. долараў.

Апрача гандлю зброяй, «Белтэхэкспарт» актыўна займаецца «продажам» беларускіх ваенных верталётчыкаў у «сяброўскія» краіны. Пілот, у якога месячны заробак вагаецца каля 6 мільёнаў рублёў, натуральна, пагаджаецца на крыху большыя грошы. Паводле нашых звестак, афрыканцы плацяць фірме за аднаго лётчыка каля 1,5 тысячы долараў у месяц, а фірма аддае пілоту ў якасці заробку ўсяго каля 250 долараў. Вынагада відавочная.

Наборам кадраў для замежжа займаецца спадар Бульба, які раней працаваў начальнікам аддзела армейскай авіяцыі ваенна-паветраных сіл Беларусі, а цяпер прызямліўся ў «Белтэхэкспарце». Кантракты з авіятарамі заключаюцца практычна на словах, каб не заставалася слядоў, а верталётчыкі едуць у Афрыку прыватным чынам. Для працы падбіраюцца правераныя, надзейныя людзі. Напрыклад, для чарговага «дэсанту» ў Іран і Турцыю забіраюць «кампучыйцаў» — былых падначаленых спадара Бульбы, якія знаходзіліся ў Кампучыі на пачатку 90-х гадоў пад сцягам ААН. У выпадку непрадказальнай сітуацыі «Белтэхэкспарт» не нясе ніякай адказнасці за кліентаў.

Прыгадайце хоць бы апошнюю гісторыю, калі ў афрыканскай Сьера-Леоне верталётчыкі Іван Мартыновіч з Гродзенскай, Васіль Кулькоў з Брэсцкай вобласці і Уладзімір Чэпель з Полацка трапілі ў палон да путчыстаў, а потым у турму. Пэўны час



пра лёс пілотаў, якія ў 1995 годзе выехалі на працу ў Афрыку, ніхто не ведаў. Як толькі верталётчыкаў знайшлі, то ўзнікла праблема з дастаўкай іх дадому. Білеты купіла Расія і запатрабавала, каб беларускі бок пагасіў выдаткі на пералёт сваіх грамадзянаў. Верталётчыкі былі ў Афрыцы не па дзяржаўнай лініі, таму білеты давялося аплачваць жонкам верталётчыкаў. Дзіўна, што фірма, якая вербавала пілотаў, не паклапацілася пра сваіх кліентаў. Такія ж адносіны яна прадэманстравала ў мінулым годзе, калі на пахаванне загінуўшага за мяжой авіятэхніка не дала ніводнай капейкі.

Нягледзячы на такія драматычныя гісторыі, беларускія лётчыкі звальняюцца з арміі і едуць на заробкі ў тую ж Афрыку. Для гэтага яны «спісваюцца» па стане здароўя ў мінскім шпіталі № 432. У авіяцыі, дзе катастрафічна не хапае кадраў, нават жартуюць, што на пілотаў найшоў нейкі «мор», а «спісаца» з арміі можна заўсёды і ў кароткі тэрмін.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## «Тэлефонны мітынг» у Бабруйску

**Актывісты БНФ з Бабруйска правялі ў сваім горадзе незвычайную акцыю, якая атрымала назву «тэлефонны мітынг».**

Фронтаўцы прапанавалі жыхарам горада пастаянна тэлефанаваць чыноўнікам мясцовай вертыкалі і даймаць іх адным пытаннем: *«Калі будуць пушчаныя тралейбусныя лініі ў аддаленыя мікраraёны?»* Апазіцыянеры раскідалі ў паштовыя скрыні бабруйчанаў улёткі, у якіх былі пададзеныя адпаведныя тэлефоны гарвыканкама. На «вертыкальшчыкаў» абрынуўся шквал тэлефонных званкоў, чыноўнікі былі вымушаныя апраўдвацца перад гараджанамі.

На думку старшыні бабруйскай рады БНФ Вячаслава Сізунова, акцыя прайшла ўдала. *«Апазіцыянеры звярнулі ўвагу людзей да сацыяльнай праблемы і гэта паспрыяла разбурэнню ў масавай свядомасці стэрэатыпу, што БНФ займаецца нейкімі абстрактнымі пытаннямі»*, — лічыць В.Сізуноў.

«Тэлефонны мітынг» атрымаў у Бабруйску немалы грамадскі рэзананс. Розныя начальнікі на працягу ліпеня не раз выступалі ў мясцовых СМІ, абяцалі хутка вырашыць транспартную праблему і, адначасова, кідалі праклёны ў бок фронтаўцаў, якія, на думку чыноўнікаў, займаюцца распальваннем сацыяльнай варожасці.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Акцыя пакаяння

**У пятніцу, 21 жніўня, у Мінску пройдзе санкцыяваная гарадскімі ўладамі акцыя пакаяння ў сувязі з 30-й гадавінай уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію.**

Пікет, арганізаваны актывістамі «Хартыі-97», пройдзе ў скверы на скрыжаванні вуліц Няміга і Гарадскі вал з 15 да 18 гадзінаў. У ім будуць удзельнічаць некалькі непасрэдных удзельнікаў уводу войскаў у Чэхаславакію. Як сказаў адзін з арганізатараў пікету Мікалай Халезін, *«галоўная мэта акцыі — нагадаць людзям пра ганебныя старонкі нядаўняга мінулага і папрасіць прабачэння ў народаў Чэхіі і Славакіі»*.

## З турмы – у інтэрнат

**У вёсцы Варняны Астравецкага раёна будзе створаны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі.**

Рашэнне аб гэтым прыняў Гродзенскі аблвыканкам. Незвычайны дом-інтэрнат будзе першай установай такога роду ў Беларусі і прыме 30 чалавек.

## У Віцебску капаюць

**Археолагі Інстытута гісторыі Акадэміі навук вядуць раскопкі на месцы ўзарванага ў 1936 годзе Свята-Успенскага сабора ў Віцебску.**

Даследаванні знойдзеных тут рэштак старадаўняга падмурку дазволяць сучасным інжынерам-будаўнікам правесці намечанае аднаўленне храма ў найбольш дакладнай адпаведнасці з яго гістарычным «праўобразам». Тым часам мясцовая праваслаўная епархія праводзіць збор ахвяраванняў на адраджэнне храма.

*БелаПАН*

### ПАДПІСКА

Шаноўныя чытачы! Падпісная кампанія на чацвёрты квартал 1998 года стартавала. Газету НАВІНЫ можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і Белсаюздруку. Кошт падпіскі на месяц – 40.000 руб. Наш падпісны індэкс 63312

# Свята ў памежнай зоне

**У нядзелю Саюз палякаў арганізаваў у Гродзенскім раёне свята «Адам Міцкевіч у культуры трох народаў». Мерапрыемства адбылося на Аўгустоўскім канале каля разбуранага шлюза.**

З трэцяй культурай, праўда, нічога не атрымалася — літоўцы не прыехалі, яны адзначалі ў Друскеніках штосьці сваё. Таксама замест абяцанай беларускай, польскай і літоўскай кухні «общепит» частаваў усіх традыцыйнымі шашлыкамі з півам. Аднак свята было: гучалі польскія і беларускія песні, вершы Міцкевіча ў арыгінале і беларускіх перакладах. На лясную паляну пад стогадовымі дрэвамі сабраліся жыхары навакольных вёсак, якія, мабыць, упершыню бавіліся на гэткай пагулянцы. Было шмат моладзі.

Трэба сказаць, што Аўгустоўскі канал праз мяжу злучае рэкі Нёман і Бобру, якая ўпадае ў Віслу. На польскім баку канал дагледжаны, функцыянуе, з'яўляецца месцам турызму і адпачынку. З нашага боку ўсё занядбана і разбурана. Рэч у тым, што са сталінскіх часоў да нашых дзён мясцовасць застаецца памежнай зонай (хоць да мяжы дзесяць кіламетраў), доступ у якую магчымы толькі па спецпропуску. Гэты кут Гродзенскага раёна мяжуе і з Польшчай, і з Літвой. Людзі моцна трымаюцца польскасці, нават звычайны трактарыст стараецца размаўляць па-польску, хоць часта атрымліваецца «трасянка». Нават у савецкія часы тутэйшыя сяляне працягвалі жыць паводле варшаўскага часу — стрэлкі ручных гадзіннікаў паказвалі той жа час, што і па другі бок мяжы. Але пры ўсім гэтым вясковая публіка бурна рэагавала на беларускія прыпеўкі, якія выконвалі артысты з фальклорнага тэатра «Матуліна песня».

На свяце прысутнічаў пасол польскага Сейма Ю.Дамброўскі (ён прадстаўляе там Саюз польскіх чыгуначнікаў), які ўпершыню трапіў на Беларусь. У неафіцыйнай частцы мерапрыемства ён сказаў прамову, нечаканую для прысутных. Спадар пасол прызнаўся, што яму вельмі спадабалася на свяце і што ён падобраму ўражаны беларуска-польскім паяднаннем. Аказваецца, тое, што пішуць пра Беларусь у газетах, не адпавядае рэчаіснасці, сказаў ён. Маўляў, яны ў Польшчы толькі яшчэ гавораць пра аб'яднаную Эўропу, у той час, як тут не гавораць, а — будуюць. Старшыня Саюза палякаў Т.Гавін мусіў устаць і ўдакладніць, што беларусы з палякамі сапраўды жывуць па-сяброўску, але сітуацыя ў краіне не такая ідылічная, таму мы марым, каб жыць у Беларусі сапраўды суверэннай і дэмакратычнай.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**





***Віцэ-прэм'еру Уладзіміру Гаркуну (на здымку справа) да палявых работ не прывыкаць. Сёлетняя «бітва за ўраджай» — далёка не першая ў ягоным жыцці.***

## У Польшчу – з любой сумай грошай

*Беларусам не будуць глядзець у кішэні*

Міністэрства замежных справаў Беларусі разаслала па ўсіх газетах паведамленне для прэсы, у якім сцвярджалася, што, згодна з распараджэннем міністра ўнутраных справаў Польшчы, з 18 жніўня для перасячэння польскай мяжы кожнаму замежніку трэба мець пры сабе пэўную суму грошай. Напрыклад, дарослы чалавек (старэйшы за 16 гадоў) мусіць мець пры сабе як мінімум 100 злотых (каля 29 долараў ЗША) за кожны дзень візіту, але не меней за 500 злотых.

У польскай амбасадзе пацвердзілі існаванне такога распараджэння. Аднак консул Вальдэмар Мэндзэлеўскі паведаміў, што гэтыя захады не датычаць жыхароў Беларусі. Такім чынам, беларусам можна праязджаць праз польскую мяжу з любой сумай грошай у кішэні — каб толькі хапіла на вяртанне дамоў. Нагадаем, што ўезд у Польшчу магчымы па ваўчары, запрашэнні, штампу ў пашпарце «АВ-службеная» альбо па візе.

**Міхась КАРПОВІЧ**

*Увага, конкурс!*

# Я маю права

***Дарагія юныя грамадзяне Беларусі!***

Сёлета сусветная супольнасць адзначае значную дату сваёй гісторыі — 50 гадоў з дня прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека».

З гэтай нагоды Беларускі Хельсінкскі камітэт абвяшчае літаратурны конкурс «Я маю права», да ўдзелу ў якім запрашаюцца вучні 8 — 11 класаў.

Конкурсныя працы павінны адлюстроўваць ваша разуменне ролі «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека» як для чалавечай цывілізацыі наогул, так і для нашай незалежнай дзяржавы, для вас асабіста. Вы будзеце жыць у новай Беларусі. Якой вы бачыце сваю радзіму ў XXI стагоддзі? Што вы самі паспелі ці мяркуеце зрабіць для пераўтварэння Беларусі ў дэмакратычную еўрапейскую краіну з развітай нацыянальнай культурай і высокім узроўнем жыцця, дзе будуць забяспечаныя ўсе правы чалавека? (Калі вы не знаёмыя з тэкстам «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека», звяртайцеся ў бібліятэкі або непасрэдна ў Беларускі Хельсінкскі камітэт.)

Для сваёй конкурснай працы вы можаце абраць розныя жанры: мастацкае апавяданне, дакументальны нарыс ці замалёўка, публіцыстычны рэпартаж пра канкрэтную падзею ці нават паэтычны твор. Адзіная ўмова: ваша праца павінна быць напісана пабеларуску — на мове, ад будучыні якой залежыць і будучыня нашай дзяржавы.

Конкурсныя працы дасылаюцца ў двух экзэмплярах надрукаванымі на машынцы, набранымі на камп'ютэры або ў рукапісу.

Тэрмін дасылання — да 1 лістапада 1998 г. (па паштовым штэмпелі). Апрача дакладнага адрасу, просім паведамляць і нумар вашага тэлефона.

Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы, вызначыць адно першае, два другія і тры трэція месцы.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. Лепшыя творы будуць апублікаваныя.

Конкурсныя працы дасылаць на адрас:

***Беларускі Хельсінкскі камітэт, вул.К.Лібкнехта, 68, пакой 1201, Мінск 220036 — з паметкай: «на конкурс»***

*Тэл. для даведак (017) 222-48-00*



# Танкісты вучацца плаваць пад вадой

**На палігоне «Белая Лужа» пад Барысавам (Мінская вобласць) на рацэ Бярэзіна пачаліся практычныя заняткі па падводным ваджэнні танкавых падраздзяленняў 120-й мотастралковай дывізіі.**

Правядзенне падобных вучэбных мерапрыемстваў было прыпынена ў войсках некалькі гадоў таму. Выключэнне складалі толькі часці 28-га армейскага корпусу беларускага войска. У гэтым аб'яднанні падводныя ваджэнні праводзіліся рэгулярна.

Адначасова з падводным ваджэннем воінаў-танкістаў у «Белай Лужы» на Бярэзіне пройдуць і практычныя заняткі мотастралковых падраздзяленняў 120-й дывізіі па ваджэнні баявых машын пяхоты і бронетранспарцёраў на плаву.

*БелаПАН*

# Было 42 сінагогі, засталася адна

**Камісія па культуры і міжнацыянальных зносінах Гродзенскага гарсавета прапанавала выдзеліць на гарадскіх могілках асобныя сектары для пахавання яўрэяў і татараў.**

Але ўжо два гады, як у гарвыканкаме як вады ў рот набралі, адказу — ніякага. Пра гэта расказала дэпутат гарадскога савета і кіраўнік філіі Фонду Льва Сапегі Таццяна Маліноўская на канферэнцыі «Улады і нацыянальныя меншасці».

Як вынікала з выступаў на канферэнцыі, прадстаўнікі ўсіх нацменшасцяў, апроч палякаў, цалкам задаволены супрацоўніцтвам з мясцовымі ўладамі. Праўда, матэрыяльна ім найбольш дапамагае гістарычная радзіма. Гэта датычыць літоўцаў, яўрэяў і палякаў. Высветлілася, што ў горадзе найменш ведаюць пра дзейнасць яўрэйскай грамады. Яе прадстаўнік Я.Сегал паведаміў, што да вайны больш за палову жыхароў Гродна складалі яўрэі, сёння іх каля 700. Раней было 42 сінагогі, цяпер толькі адна.

Дабрачыннасць з'яўляецца адным з асноўных накірункаў дзейнасці яўрэйскай арганізацыі. Пяць разоў у тыдзень у «Пельменнай» каля сарака чалавек атрымліваюць бясплатныя абеды (на аднаго чалавека — 1 долар), і яшчэ столькім жа — нямоглым і хворым харчаванне дастаўляецца дадому. Сярод гэтых людзей ёсць не толькі яўрэі. У Гродне пражывае некалькі «Праведнікаў міру» — тых, каго ўзнагародзілі спецыяльным медалём за тое, што пад час нямецкай акупацыі яны ратавалі яўрэяў. Гэтыя людзі таксама знаходзяцца пад апекай: ім выдаюцца прадуктовыя пасылкі, якія прыходзяць з Ізраіля, іх запрашаюць на яўрэйскія святы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Першы на бязрыб'і

*Электарат Лукашэнкі значна скараціўся*

**Прынамсі, у Мінску. Так сцвярджае сацыялагічная служба «Люстэрка» кампаніі БелаПАН, якая апытала ў канцы чэрвеня 600 жыхароў сталіцы.**



Выказаныя рэспандэнтамі сімпатыі цікавыя як у цэлым, так і ў разрэзе тых сацыяльна-дэмаграфічных групаў насельніцтва, якія «прагаласавалі» за канкрэтнага прэтэндэнта. Лідзіруе з яўнай перавагай Аляксандр Лукашэнка. Але сёння толькі 20% апытаных мінчанаў гатовыя аддаць за яго свой голас.

У электараце прэзідэнта пераважаюць жанчыны (68%); людзі ва ўзросце 50 гадоў і старэй (52%); з адукацыяй сярэдняй і ніжэй (73%). Аргументы прыхільнікаў Лукашэнкі традыцыйныя: іх падкупляе шчырасць, як ім здаецца, уласцівая прэзідэнту, працаздольнасць, упартасць у дасягненні мэты. З ім звязваюцца надзеі на выжыванне і росквіт.

У апазіцыйных палітыкаў рэйтынг невысокі: па 5—6% галасоў сёння маглі б набраць такія кандыдаты, як Генадзь Карпенка, Станіслаў Шушкевіч, Зянон Пазьняк. У арсенале Карпенкі 95% асобаў ва ўзросце ад 25 да 50 гадоў; 56% — з вышэйшай адукацыяй. Шушкевіча падтрымліваюць мужчыны (61%); асобы да 50 гадоў (91%); кожны трэці з іх — з вышэйшай адукацыяй. За Пазьняка, актыўней за іншых, выказваюцца людзі ва ўзросце 25—29 гадоў і 50—59 гадоў (41%); з сярэдняй і нескончанай сярэдняй адукацыяй (79%).

Кожны пяты апытаны мінчанін заявіў, што не бачыць сёння дастойных кандыдатаў.

Паўная частка выбаршчыкаў (7%) зусім не збіраецца ўдзельнічаць у выбарах, а 5% збіраюцца галасаваць супраць усіх кандыдатаў. Прычыны таму розныя, але галоўная — адсутнасць новых прывабных кандыдатаў.

Чвэрць апытаных — гэта «балота». Гэтыя людзі не ведаюць, які прэзідэнт ім патрэбны. Спектр думак пры гэтым прадэманстраваны вельмі шырокі: апалітычнасць, недавер уладам наогул, бытавая стомленасць. Зразумела, што іх падтрымка можа быць вырашальнай.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ**

*Наш каментар*

Пры вывучэнні грамадскай думкі заўсёды ўзнікае пытанне: каго апытваць? Упершыню адэкватна адказаў на гэта Джордж Гэлап. Пад яго кіраўніцтвам у Злучаных Штатах падчас прэзідэнцкай кампаніі 1936 г. было праведзенае выбарачнае апытанне з некалькімі тысячамі інтэрв'ю, якое дазволіла прадказаць канчатковы вынік «з дакладнасцю да міліметра». У той жа час часопіс «Літэрары Дайджэст», які карыстаўся найбольшым уплывам у гэтай галіне, на падставе значнага даследавання з паштовым анкетаваннем 10 млн. чытачоў(!) падрыхтаваў недакладны прагноз.

Такім чынам, быў прадэманстраваны вялікі патэнцыял рэпрэзентатыўнай выбаркі, які дазволіў праз малое прадстаўніцтва (мікрамадэль) ацаніць агульную сітуацыю (макрамадэль). Гэлап на гэты конт выказаўся так: «Калі добра памяшаць суп, повар возьме адну лыжку і скажа, наколькі смачны суп ва ўсім гаршку».

Па гэтай прычыне нельга скептычна ставіцца да таго, што ў дадзеным выпадку было апытана ўсяго 600 рэспандэнтаў. Лічыцца, што колькасць апытаных павінна, як правіла, складаць 10% ад генеральнай сукупнасці (у нашым выпадку — ад колькасці дарослага насельніцтва Мінска), але не перавышаць 2.000—2.500 тыс. чалавек. Аднак практыка сведчыць, што пры правядзенні апытанняў грамадскай думкі для атрымання дакладных вынікаў дастаткова апытаць 500—1.200 рэспандэнтаў.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Галоўнае – лічбы

**Гродзенскі аблвыканкам разаслаў распараджэнне па ўсіх райвыканкамах вобласці, патрабуючы павялічыць выпуск любой прадукцыі і дзе толькі магчыма.**

Не важна, што гэта будзе: аўтобусы альбо піва і гарэлка. Прычына распараджэння наступная — скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці аб'яднання «Азот» і частковае спыненне другога гродзенскага хімічнага прадпрыемства — аб'яднання «Хімвалакно».

Варта сказаць, што «гігант хіміі» «Азот» — самае вялікае ў вобласці прадпрыемства. І колькасцю выпрацоўваемай прадукцыі, і тым, што большая яе частка ішла на экспарт, аб'яднанне значна паляпшала агульны стан эканомікі Гродзеншчыны. Цяпер абласныя паказчыкі істотна пагоршыліся, а лічбы ў камандный эканоміцы, як вядома, — гэта галоўнае. Вельмі пагаршаецца і сітуацыя ў Гродне. Дарэчы сказаць, што два хімічныя прадпрыемствы давалі ў бюджэт горада 56% падаткаў. А ў чэрвені «Азот» працаваў толькі крыху больш як на 40% сваіх магчымасцяў. Але працаваць напоўніцу ўсё адно няма сэнсу. Рэнтабельнасць вытворчасці за год упала больш як у пяць разоў!

Занепакоены сітуацыяй, прэзідэнт А.Лукашэнка выклікаў да сябе генеральнага дырэктара «Азота» В.Лангова разам з старшынём аблвыканкама А.Дубко. Але што ён мог ім параіць? Прадукцыю прадпрыемства больш не хочуць купляць у Еўропе. Прэзідэнт, як заўжды, абвінавачвае Захад, які, маўляў, «выціскае» нас з рынкаў збыту. Карацей, хочуць задушыць эканамічна.

Але ў сапраўднасці — прычына іншая. Рэч у тым, што на сусветным рынку за апошні год адбыліся вельмі істотныя змены. Па-першае, зменшыўся попыт на азотныя ўгнаенні, а самае галоўнае — кошты ўпалі ўдвая! Цяпер тона каштуе ўсяго 84 долары. Што датычыць другой прадукцыі «Азота» — капралактаму (тона якога каштавала 1.400 долараў), дык на яго таксама ледзьве не ў два разы зменшыліся цэны, а восень попыт знік практычна зусім. Ва ўсякім разе гэтак тлумачыць безвыходнасць сітуацыі само кіраўніцтва аб'яднання. Што зробіш, калі ў Арабскіх Эміратах, дзе ўвасобілі новыя тэхналогіі, пачалі ў вялікай колькасці выпускаць тое ж самае. Прычым, нават улічваючы транспартныя выдаткі, іхні капралактам каштуе для Еўропы значна танней, чымсьці гродзенскі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Дакументы*

# «Нацысцкае золата з Беларусі»

**Выйшаў у свет дакументальны зборнік «Нацысцкае золата з Беларусі». Яго выпусціў Нацыянальны архіў Беларусі тыражом 500 экзэмпляраў.**

Як ужо паведамлялася, у снежні 1997 года ў Лондане адбылася міжнародная канферэнцыя, прысвечаная лёсу нацысцкага золата, нарабаванага фашыстамі ў гады Другой сусветнай вайны ў акупіраваных краінах. Па ацэнках экспертаў, кошт яго складае 2,2 млрд. долараў ЗША, прычым кожны грам гэтага багацця быў здабыты злачынным шляхам. Санкцыяванае фюрэрам рабаўніцтва ажыццяўлялася спачатку ў Германіі, а потым за яе межамі па дакладна распрацаваных гітлераўскімі чыноўнікамі інструкцыях.

У зборніку публікуюцца распараджэнні, інструкцыі, данясенні, спісы, справаздачы, пратаколы, акты, паказанні сведак і іншыя дакументы і матэрыялы аб канфіскацыі нацыстамі ў насельніцтва Беларусі залатых, срэбраных рэчаў і каштоўнасцяў у 1941-1944 гадах, у тым ліку аб канфіскацыі золата ў яўрэйскага насельніцтва. Дакументы і матэрыялы, што ўвайшлі ў кнігу, выяўлены ў Нацыянальным архіве Беларусі, у архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі, у дзяржаўных архівах Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей, у занальных архівах Баранавічаў і Бабруйска.

Разам з іншымі дакументамі і матэрыяламі зборнік «Нацысцкае золата з Беларусі» будзе прадстаўлены Вашынгтонскай канферэнцыі па праблемах нацысцкага золата, якая адбудзецца 9—12 лістапада. На ёй плануецца перагледзець спіс краінаў, насельніцтва якіх атрымае кампенсацыю, і разгледзець пытанне аб уключэнні ў гэты спіс Беларусі.

*БелаПАН*

# Гэй, казакі!

**Міністэрства юстыцыі зарэгістравала Усебеларускае аб'яднанне казацтва.**

Гэтая грамадская арганізацыя ставіць сваёй мэтай «захаванне і папулярызацыю казацтва ў Беларусі і абарону яго законных правоў і інтарэсаў». Як паведаміў намеснік вярхоўнага атамана Мікалай Фамічоў, на сённяшні дзень іх арганізацыя мае рэгіянальныя аддзяленні ва ўсіх абласных цэнтрах, за выключэннем Гродна. Па словах Фамічова, на тэрыторыі Беларусі жывуць каля 3 тысяч казакаў. Аднак для таго, каб уступіць у аб'яднанне, зусім не абавязкова быць патомным казаком, дастаткова «выконваць казацкія традыцыі і падзяляць іх светапогляд».

Намеснік вярхоўнага атамана паведаміў таксама, што прамых палітычных мэтаў беларускае казацтва перад сабой не ставіць, але выступае за аб'яднанне славянскіх народаў і гатова супрацоўнічаць з усімі арганізацыямі, якія падтрымліваюць ідэю аднаўлення СССР.

*БелаПАН*

**КАДРЫ**



*В Латвии арестован бывший командир советского партизанского отряда*

## Без срока давности

**Генпрокуратура Латвии арестовала бывшего командира советского партизанского отряда, во время Второй мировой войны действовавшего в тылу немецкой армии. 75-летнему Василию Кононову инкриминируется убийство в мае 1944 года в Мердзенской волости Лудзенского района девяти гражданских жителей, в том числе детей и беременной женщины.**

По словам представителя Генпрокуратуры, старшего прокурора отдела по расследованию преступлений тоталитарного режима Улдиса Стрелиса, помимо этого группу красных партизан В.Кононова обвиняют в сожжении двух хуторов и грабеже гражданского населения. Как сообщает агентство *BNS*, сейчас известны имена почти всех членов партизанского отряда. Генпрокуратура допускает, что эта же группа красных партизан виновна в совершении других военных преступлений.

Впрочем, старший прокурор У.Стрелис не пожелал конкретизировать эти преступления до тех пор, пока их не докажут документально. Сведения о преступлениях, совершенных группой красных партизан, сотрудники отдела обнаружили в архивах. Показания по этим преступлениям дали и выжившие свидетели. Сейчас В.Кононову, помещенному в следственный изолятор, предъявлено обвинение по 68-й статье Уголовного кодекса ЛР. По действующему законодательству его могут приговорить к лишению свободы на срок от 3 до 15 лет или к пожизненному заключению.

**Вера МАКРОМЕНКО**

## Талибы идут!

**В Таджикистан вчера прибыл директор Федеральной пограничной службы генерал Николай Бордюжа. В течение трех дней он будет встречаться с руководством Таджикистана и командованием российских погранвойск в республике, а также посетит ряд застав на таджикско-афганской границе для того, чтобы оценить ситуацию, складывающуюся на границе с Афганистаном.**



Бушующая в Афганистане война теперь уже бросает зловещую тень и на Россию.

Войскам движения «Талибан» удалось захватить Мазари-Шариф, ключевой город на севере Афганистана. Теперь уже ясно вырисовывается стратегия талибов. Их цель — пробиться к границам с Таджикистаном и Узбекистаном, сломив сопротивление оппозиции, возглавляемой узбекским генералом Дустумом и полевым командиром Шах Масудом, и попытаться создать единое исламское государство в Центральной Азии. Более того, в недалекой перспективе в талибских стратегов, судя по их заявлениям, — освобождение всех мусульман в России.

При данном военно-политическом раскладе, как с тревогой говорят российские военные эксперты, *«не исключен массовый исход из Афганистана беженцев, прежде всего этнических узбеков»*. А для того, чтобы разместить их в приграничных районах Узбекистана или Таджикистана, понадобится безотлагательное создание «неких резерваций», точнее, лагерей для беженцев, охранять которые будут в соответствии с обязательствами по коллективной обороне стран СНГ российские миротворцы. По предварительным подсчетам, сейчас Россия могла бы выделить на эти цели 12 тысяч миротворцев из 22-тысячного контингента. Десять тысяч уже задействованы в различных точках СНГ и Европы.

Военное руководство России не исключает широкого выхода формирований талибов к таджикско-афганской и узбекско-афганской границам. По расчетам командования ФПС, формула отработки совместных действий с силовыми ведомствами Таджикистана учитывает возможное перемещение талибов через границу с СНГ. Командованию российской погрангруппы в этом регионе даны соответствующие указания о подготовке резервов и дополнительных подразделений.

**Геннадий КУЛЬБИЦКИЙ,**
*руководитель дипслужбы ИТАР-ТАСС*



### Так рождалась «Солидарность»

# «Вся нация должна стать на их защиту»

Репрессии против участников рабочего протеста вызвали в польском обществе серьезную тревогу: на проходивший в Варшаве процесс, где судили рабочих завода «Урсус», прибыла группа наблюдателей из числа представителей молодой интеллигенции. Отсутствие компетентной юридической помощи репрессированным, полная растерянность и беспомощность их семей вызвали желание помочь репрессированным. Контакты, установленные во время процесса, позволили обнаружить, в каких трудных материальных условиях оказались семьи, члены которых попали на скамью подсудимых. Именно там, прямо в здании суда, родилась инициатива, результатом которой стала организация помощи для преследуемых.

С этого момента начался сбор денежных средств среди знакомых. Рамки акции расширялись благодаря контактам, возникшим в зале суда; цель была одна — прийти на помощь всем преследуемым рабочим. Параллельно проводившейся акции помощи видные представители польской интеллигенции выступили с протестом против террора, обрушившегося на участников июньских событий.

*Две с половиной тысячи арестованных, сотни уволенных, 400 осужденных на тюремные сроки от 9 месяцев до 10 лет — так расправились польские власти с рабочими, восставшими в июне 1976 года*

### Интеллигенция и рабочие на пути к солидарности

Две с половиной тысячи арестованных, сотни уволенных, 400 осужденных на тюремные сроки от 9 месяцев до 10 лет — так расправились польские власти с рабочими, восставшими в июне 1976 года. Однако главный урок событий заключался не в том, чтобы в очередной раз констатировать жестокость репрессивного аппарата государства. На волне событий 1976 года независимые организации рабочих и интеллигенции осознали необходимость взаимного сотрудничества. В течение следующих четырех лет оппозиция не провела ни одной значительной акции. Это были годы кропотливой работы по выработке методов взаимодействия трудящихся и диссидентов, иными словами, речь шла о создании новой модели сопротивления.

Несмотря на то, что в послевоенной Польше всегда существовала политическая оппозиция, она не могла претендовать на общенациональный характер: рабочие боролись сами по себе, студенты и интеллигенция — каждый посвоему. Для многих из них восстания рабочих 1953-го и 1970-х годов были всего лишь «колбасными бунтами». А когда в 1968 году на улицы Варшавы вышли студенты, рабочие в свою очередь равнодушно смотрели, как полиция разгоняет молодежь, комментируя происходящее примерно так: «С жиру бесятся!»

Первый шаг навстречу друг другу был сделан в 1976-м. Прологом к сотрудничеству стала кампания, развернутая интеллигенцией в защиту рабочих, осужденных за участие в июньских волнениях 1976-го. По всей Польше прокатилась тогда волна обращений, заявлений и меморандумов. *«Мы видим в вас преследуемых рабочих, борцов за настоящую социалистическую демократию, за социальные свободы, без которых всякая свобода мертва»*, — говорилось в одном из меморандумов. За петициями и воззваниями последовали конкретные действия: 23 сентября 1976 г. 14 интеллигентов объявили о создании «Комитета защиты рабочих» (КОР). В декларации говорилось, что *«вся нация, в интересах которой действовали арестованные рабочие-активисты, должна стать на их защиту. Общество обладает лишь одним орудием защиты против несправедливости — солидарностью и взаимопомощью»*.

Комитет поставил себе целью оказывать репрессированным и их семьям материальную, юридическую и медицинскую помощь. Но главная задача состояла в том, чтобы путем оглашения правды об июньских событиях мобилизовать широкую общественность, способную добиться освобождения осужденных рабочих.

Об эффективности этих действий свидетельствует факт поочередных уступок со стороны власти, завершившихся в июле 1977 года освобождением последних оставшихся в тюрьмах участников июньских событий. Вместе с ними выходили из тюрем рабочие, отбывавшие сроки за участие в декабрьских событиях 1970 года. Их никто в свое время не защитил, и им пришлось отбыть срок по своим приговорам до конца.

### Политическое сопротивление

Создание КОРа означало для Польши начало совершенно нового этапа сопротивления. Теперь диктатуре противостояли не диссидентские «Союзы меча и орала» и не спонтанные неорганизованные вспышки рабочей инициативы, а настоящее политическое сопротивление. В структуру КОРа входили легальные и нелегальные организации, которые использовали все возможности для борьбы. Легальной являлась группа известных писателей, ученых, художников, имевших особые заслуги в антифашистском движении. Этих людей, занимавших почетное место в иерархии польских культурных деятелей, и арестовать было неудобно. Кроме того, существовала подпольная часть комитета, насчитывающая к концу 70-х годов до 15 тысяч человек. Эти силы были задействованы прежде всего в нескольких областях деятельности.

Активисты КОРа присутствовали на судах, где выносились приговоры рабочим, обеспечивая им адвокатскую и юридическую помощь. Такого рода деятельность означала откровенный вызов властям и провоцировала их на репрессии против интеллектуалов. Бескорыстие и самоотверженность интеллигенции в конце концов завоевали доверие у рабочих.

На прорыв информационной блокады была направлена издательская деятельность. Главным печатным органом КОРа стал информационный бюллетень, где публиковались коммюнике и сообщения с мест. Кроме того, в Варшаве издавался журнал «Робитник», освещавший экономическую жизнь в стране и положение рабочих. Уже в 1977 году на страницах «Робитника» прозвучала идея о создании свободных профсоюзов. По мнению редакции, такие профсоюзы, защищая материальные интересы рабочих, могли бы эффективно способствовать демократизации общества. В рамках прозвучавшей инициативы был создан так называемый «Летучий университет», который занялся подготовкой кадров для будущего профсоюза. В число многочисленных обучающихся входил и гданьский электромонтер Лех Валенса.

КОР активно пытался привлечь внимание международной общественности к ситуации с правами трудящихся в Польше. Через польских эмигрантов на Западе распространялась информация, проходил сбор средств, организовывались акции солидарности.

### Комитет идет дальше

В конце 1977 года КОР объявил о том, что свою первую задачу он выполнил. Все осужденные по событиям 1976 года освобождены. В связи с этим 28 сентября 1977 года было сделано специальное заявление, в котором говорилось: *«Несмотря на победу, мы не можем отказаться от правозащитной деятельности. Ежедневно комитет получает огромное количество жалоб граждан, которые, не будучи рабочими, подвергаются политическим преследованиям. Поэтому КОР не только не имеет морального права прекратить свою деятельность, а наоборот, расширяет ее»*.

Изменения в программных установках отразились на названии организации. Отныне она называлась КОС-КОР (Комитет общественной самозащиты-Комитет защиты рабочих). Первой акцией КОС-КОРа стала демонстрация 16 декабря 1978 года в память рабочих, расстрелянных в 1970 году.

Вопреки стремлениям властей информационно, юридически и даже физически изолировать и уничтожить движение, КОС-КОР стремительно завоевывал сердца и умы поляков. В 1978 году деятельность комитета дала первые практические результаты. В Катовице «Рабочий комитет» призвал к созданию свободных профессиональных организаций. В Гданьске был создан Комитет свободных профсоюзов Балтийского побережья, в Щецине рабочие объявили о создании свободного профсоюза Западной Померании.

Все эти новые профсоюзы ставили своей задачей не только защиту экономических интересов трудящихся, но и защиту основных прав и свобод человека. Национальное единство основных оппозиционных сил — рабочих и интеллигенции — было достигнуто. Через 2 года эта стратегия и тактика приведет к первой существенной победе над режимом, а в памяти всех навсегда останется волнующий эпизод 31 августа 1980 года. Во время переговоров правительство было вынуждено признать требования «Солидарности» и когда, казалось, все уже было решено, один из простых рабочих вдруг попросил слова.

— Что еще? — возмутились представители правительства, — все уже закончено.

— Еще не все, — заявил рабочий. — Я и мои товарищи требуем освобождения 20 арестованных членов КОС-КОРа. Они помогали нам в 1976-м, они помогают нам и теперь. Мы не можем их бросить, не имеем права начать работу, пока они не будут освобождены.

Правительственный чиновник был бессилен что-либо возразить.

**Кирилл КУДРЯВСКИЙ**

*(Продолжение следует. Начало в № 85)*

## Жертва собственной популярности

**40-летняя американка Энн Оливер дала согласие, чтобы ее роды впервые передавались по сети Интернет.**

Это экстравагантное решение привлекло к себе внимание не только многомиллионной армии пользователей сети, но и полиции. В героине передачи стражи порядка американского штата Флорида узнали мошенницу, уже давно разыскиваемую за финансовые махинации. Между тем ее муж, обвиняемый в тех же грехах, ударился в бега.

## Инвалид оказался резвее полиции

**Пятнадцать минут потребовалось одноногому инвалиду для того, чтобы ограбить два банковских филиала в мексиканской столице.**

25-летний Антонио Понсе вошел в отделение банка «Банамекс» и, пригрозив кассирше пистолетом, вынудил ее выложить ему 800 долларов в местной валюте. Кто-то из сотрудников успел нажать на кнопку тревоги, однако грабителю удалось затеряться в толпе около метро. Через 15 минут полиция получила вызов в отделение банка «Банкомер», но уже в другом районе города. Сопоставив приметы, стражи порядка сообразили, что речь идет об одном и том же налетчике. Возмущенная дерзким поведением преступника, полиция провела в районе второго ограбления облаву на одноногих инвалидов и чудом задержала гангстера у входа в метро. Антонио признался, что с помощью игрушечного пистолета он за последние пару лет ограбил 30 банковских филиалов.

## Дети стали товаром

**В Китае, активно развивающем рыночные отношения, процветает детская работорговля.**

Полиция южнокитайских провинций Гуандун, Фуцзянь и Гуйчжоу ликвидировала банду преступников, специализировавшихся на похищении малолетних детей. В результате операции арестованы 13 торговцев живым товаром и освобождены 20 девочек и мальчиков, похищенных бандитами. Они были украдены у родителей в трех-четырехлетнем возрасте и проданы в прибрежные районы провинций за 7-13 тысяч юаней (около 900-1.600 долларов).

## Не женитесь на женщине-джинне

**В Саудовской Аравии задержан нигерийский колдун, практиковавший лечение душевнобольных.**

Поводом для ареста стало обращение в полицию одного из саудовских подданных, которого колдун женил на джинне (по Корану — фантастическое существо из «чистого» огня, сотворенное Аллахом) женского пола. Жена-джинн, за которую шарлатан затребовал калым в один миллион саудовских риалов (250 тысяч долларов) и два килограмма золота, оказалась тоже нигерийской авантюристкой. Вопреки обещаниям африканка не смогла вылечить саудовца, что и привело его в полицию. Аресты местных и иностранных колдунов стали частым явлением в королевстве. Распространению же суеверий способствуют миллионы паломников со всего света, привозящие в Саудовскую Аравию массу небылиц и предрассудков. По местным законам, колдуну и его подружке-джинну грозит смертная казнь.

## Брак по-крымски

**В виде исключения в ЗАГСе Севастополя расписали 35-летнего педагога с его 13-летней ученицей.**

По украинскому законодательству минимальный возраст молодоженов составляет 16 лет. Но учитель «совсем потерял голову», и им заинтересовалась милиция. Если бы дело дошло до суда, то влюбленному пришлось бы отбывать срок за совращение несовершеннолетней. Однако школьница сумела убедить родителей в искренности чувств своего суженого. По их настоятельной просьбе и был зарегистрирован этот брак. Теперь перед молодоженами встают материальные проблемы: узнав о «проступке» учителя, школьное начальство уволило его с работы.

*По материалам зарубежной прессы подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Плакать тоже надо уметь

**С плача начинается наша жизнь, плач сопровождает нас в последний путь. На протяжении десятилетий мы плачем от счастья и от горя, от бессилия и усталости, от обиды и по совсем необъяснимым причинам.**

Древний царь Камбиз в 525 году до н.э. завоевал Египет и взял в плен царя Псамменита. Пытаясь унизить пленника, причинить ему дополнительную боль, Камбиз заставил дочь Псамменита таскать вместе с другими рабынями воду из реки, а сына египетского царя отправил на казнь. Все, кто стал свидетелем казни, рыдали навзрыд. Один Псамменит молчал, опустив глаза. Вскоре, однако, взгляд его упал на нищего старика. Это был один из приближенных Псамменита. Знатного вельможу обобрали до нитки, и он просил у горожан милостыню. Царь горько заплакал.

Камбиз был поражен. «Ты молчал, когда казнили твоего сына и унижали дочь. Почему же вид бедняка, который тебе не родня, вызвал вдруг столько жалости?»

«Бедствия моей семьи столь велики,— ответил Псамменит,— что я не в силах их оплакать, но вид приближенного, который на старости лет лишен куска хлеба, — вот это подходящий повод для слез».

Иными словами, слезы — это признак малой беды. Рыдания — процесс, вполне управляемый волей. В жизни всегда есть место слезам — надо только с умом этим даром пользоваться.

### Поплачем, друзья!

Хорошо ли это — выплакаться? Или, может быть, стоит воспитывать силу воли и держать себя в руках, пока хватает сил?

Но в том-то и загвоздка, что сил часто не хватает. Эмоциональные, психологические, физические нагрузки на работе, да и дома таковы, что сдержанный, хорошо воспитанный человек рискует заработать инфаркт годам к сорока. Хотите продлить свой век — плачьте. Женщины! Рыдайте, размазывайте по мокрому лицу помаду вперемешку с тушью для ресниц! Мужчины! Бейтесь головой о мягкий, пушистый ковер (только не о бетонную стену)! Выплесните свой гнев — вам тут же полегчает.

Плач — одна из форм психологической защиты, которая позволяет освободить психику от негативных воздействий внешней среды. Слезы помогают нам, что называется, «спустить пар».

На языке психоанализа такой способ защиты называется регрессией: Это возврат к прежним (детским) способам действия в аналогичных ситуациях. Каждый взрослый человек, даже хорошо социально адаптированный, время от времени прибегает к подобного рода защите. Люди курят, напиваются, переедают, выходят из себя, грызут ногти, ковыряют в носу, рискованно водят машину, дерутся, таскают друг друга за волосы, поливают водой — и плачут. На душе становится легче и теплее.

### Будем как дети

Ребенок, как известно, рыдает во всех случаях, когда чем-либо недоволен, когда ему больно, неудобно, страшно. Для детей слезы — средство коммуникации. Так дети сообщают взрослым, что у них не все так, как хотелось бы. Но с возрастом мы начинаем стыдиться слез.

Не в последнюю очередь это связано со стереотипами воспитания детей. «Что ты плачешь, как девчонка?» — корят мамы своих чад.— Настоящие мужчины никогда не плачут».

С одной стороны, мамы, безусловно, правы: детям надо учиться контролировать свои эмоции. Но с другой, если дергать ребенка по всякому поводу и просто категорически запретить ему плакать, в будущем ему гарантирован букет личностных проблем, страхов и комплексов. Из него получится эмоциональный калека. И сами мамы падут первыми жертвами его твердокаменного характера.

В отличие от мужчин женщинам не возбраняется рыдать по поводу и без. Им куда легче избавиться от накопившейся в душе скверны благодаря потоку слез. Для многих женщин слезы — единственная и наиболее частая реакция на неудачу. Про таких принято говорить: «У нее глаза на мокром месте».

Но излишняя плаксивость совершенно неуместна.

### Средство от слез

Как же избежать слез, когда они неуместны? Что делать, если вас все чаще и чаще тянет поплакать, причем в ситуации вполне обыденной.

Есть ряд приемов, которые помогут вам взять себя в руки непосредственно на работе.

Если вполне корректное замечание шефа вызывает у вас личную обиду, постарайтесь отвлечься, переключите внимание на что-нибудь другое. Осмотритесь по сторонам, мысленно назовите вещи, которые вы видите. Найдите какой-нибудь мелкий предмет (листок, ветку за окном, фотографию на стене) и внимательно рассмотрите его. Желательно, чтобы предмет располагался за спиной вашего собеседника, тогда у него по-прежнему будет ощущение, что вы внимательно его слушаете. Обратите внимание на цвет, фактуру, размеры, мельчайшие детали, как будто в вашу задачу входит изучить этот предмет во всех подробностях, а потом по памяти нарисовать его.

Если есть возможность, выпейте воды. Пейте медленно, сосредоточившись на том, как жидкость течет в горло.

Один психотерапевт рекомендует забавный прием. Постарайтесь мысленно представить, что ваши неприятности — это маленький прозрачный кубик льда, лежащий на дне стакана. С каждым вашим глотком он становится все меньше. Вот вы опустошили стакан, и он растаял совсем.

Дышите медленно, через нос. Сделав вдох, задержите дыхание. Затем так же медленно выдохните через нос. Обратите внимание на то, как поднимаются и опускаются ваши плечи.

Наконец, проверенный веками способ успокоиться — это хорошо поесть, причем желательно мясную пищу. В мясе содержится много серотонина — нейромедиатора, отвечающего за положительные эмоции. Ощущение сытости принесет вам желаемое успокоение.

### Главное – найти подходящую жилетку

Плач — мощное средство манипуляции людьми. Важно одно — он должен выглядел естественно.

Одна предприимчивая дама открыла в Нью-Йорке курсы, на которых людей учили плакать, причем так, что фальшь не могли заметить даже весьма искушенные зрители.

Вид незнакомого плачущего человека заранее располагает нас к нему, даже если мы не знаем причины, вызвавшей слезы. Что уж говорить о родственнике, коллеге или подчиненном, который от нас зависит! Нам так и хочется пожалеть его, успокоить. Слезы вызывают ответное волнение в человеческом сердце.

Одна секретарша, к примеру, так умело пользовалась умением всплакнуть, что вынудила шефа создать ей льготный режим работы. Действительно, прочувствованные рассказы о больных родственниках, неблагополучных детях, муже-пьянице вынуждают слушателей принять живейшее участие в загубленной судьбе рассказчика.

Наконец, начальнику и коллегам хочется как можно скорее прекратить публичное самоистязание жертвы, когда кажется, что ее (реже его) глаза сейчас вытекут вместе со слезами, а пунцовые щеки лопнут, как переспелые помидоры. «Еще, не дай Бог,— думают собравшиеся,— войдет кто-нибудь и подумает, что это мы довели ее (его) до такого состояния!»

Но главное — не переборщить. Чтобы в вас не заподозрили профессиональную шантажистку. По тем же самым причинам, отплакавшись, не следует каяться, бить себя в грудь, просить прощения и в сотый раз повторять, что этого больше не случится. Иначе за вами прочно закрепится слава эдакой штатной плаксы.

Дело в том, что большинство мужчин панически боятся истерических женщин. И подобные спектакли могут вызвать у них подсознательное желание навсегда избавить себя от такой подчиненной. По признанию одного директора, он настолько боится женских слез, что пару месяцев просто не общался с сотрудницей, расплакавшейся у него на глазах. И конечно, эмоционально не уравновешенных людей вряд ли ждет повышение по службе, а тем более руководящие должности. Плаксу рано или поздно увольняют.

Но в данном случае есть замечательный выход из положения. Не только слезы, но и рассказ о том, как кто-то плачет, порождает в нас желание помочь. И происходит это независимо от того, когда слезы были пролиты, сейчас или тысячу лет назад, соседом или человеком с другого полушария. Итак, следует найти доброжелателя, приближенного к начальству, и выплакаться ему по полной программе. А уж он, поверьте, понесет этот груз шефу и поможет вам решить ваши проблемы. При этом вы не затронете подсознательные мужские комплексы вашего руководителя. Главное — найти подходящую жилетку!

**Альфред ПРОФИЛЬ**

**КАДРЫ**



## Виноваты... матери?

**Миллионы детей возликуют от радости, узнав, что сказали взрослые дяди на парижском конгрессе стоматологов: детский кариес вызывает вовсе не сахар, а бактерия, которая передается ребенку от матери.**

Кариес — не обычная дырка в зубе, а результат инфекционного заболевания. Вызывают его главным образом бактерии стрептококки, которые попадают в рот ребенка изо рта матери. *«Перед тем как кормить ребенка, мать пробует пищу, не горяча ли она, и если пользуется при этом ложкой ребенка, то ему передаются бактерии»,* — утверждает парижский стоматолог Жан-Мишель Моран. Особенно ученых заинтересовал тот факт, что для ребенка опасны лишь те стрептококки, которые обитают во рту его матери, а стрептококки отца или няни ему нипочем.

*«Такие бактерии имеются в полости рта у каждого,* — говорит профессор Моран, — *но опасность для детей представляют именно те, что передаются от матери».*

Ученые единодушны в том, что единственный способ защитить детей от материнской инфекции — заботиться о гигиене полости рта, причем важно, чтобы ребенок не только ежедневно чистил зубы, но и полоскал рот после еды.

## Не то сына, не то дочь...

Если вы хотите, чтобы ваш первенец был мальчиком, женитесь на молодой. Хотите девочку? Выберите себе половину постарше. Это не так глупо, как кажется на первый взгляд. Исследователи Ливерпульского университета установили, что у мужчин, женатых на женщинах старше себя, девочки рождаются вдвое чаще, чем у мужчин, чьи жены моложе их самих или их ровесницы. И наоборот, женатые на молоденьких вдвое чаще становятся отцами мальчиков. Объяснить этот феномен ученые пока не могут, но факт остается фактом.

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1224 Нумар падпісаны ў друк 18/08/98 (14:50) Наклад — 19.680